**У адзінстве наша сіла!**

# САЛІДАРНАСЦЬ

№13 (284)

2 красавіка 1999 года

*Распаўсюджваецца бясплатна*

**ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАФСАЮЗА ГАРНЯКОЎ, ХІМІКАЎ, НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКАЎ, ЭНЕРГЕТЫКАЎ, ТРАНСПАРТНІКАЎ, БУДАЎНІКОЎ І ІНШЫХ РАБОТНІКАЎ**


## У нас лишние ИТР?

Региональная организация Независимого профсоюза горняков ПО «Беларуськалий» глубоко возмущена проведением единых дней информирования населения в структурных подразделениях объединения. По нашему мнению, они являются продолжением единых политдней, проводимых во времена КПСС. Эта практика является нарушением приказа по объединению и правил внутреннего трудового распорядка, запрещающих отвлекать работников в рабочее время на непроизводственные собрания и совещания, а также общественные мероприятия.

К примеру, 29 марта большая группа ответственных работников горисполкома совместно с представителями нанимателя провела единый день информирования, на котором присутствовало около 80% инженерно-технического корпуса 3-РУ. Потери трудового времени, по нашим подсчетам, составили около 250 человеко-часов. Сколько же они составляют по объединению? А на 2-РУ додумались до того, что бригадиров освобождали от основной работы на время политдня, чтобы увеличить прослойку рабочих.

Главное предназначение этих мероприятий - погашение социальной напряженности. Их организаторы как будто не понимают, что эта самая напряженность гасится другим способом - удовлетворением требований работников.

Наш профсоюз неоднократно делал представление генеральному директору П.А.Калугину о недопустимости нарушения его приказа и правил трудового распорядка, необходимости изменения формы информирования, порочности привлечения работников к этим мероприятиям в рабочее время.

Мы по-человечески понимаем генерального директора, который вынужден исполнять указания сверху, тем самым реализовывать политику государства на мнимую информированность. Вместе с тем, если эта практика будет продолжаться, мы будем вынуждены подсчитать потери времени инженерно-технических работников на данного рода мероприятия и потребовать сокращения управленческого аппарата, так как производство нормально функционирует, пока большое количество чиновников просиживает на никому не нужных говорильнях.

Нами замечена закономерность: агитационная активность госвластей повышается именно тогда, когда наиболее реально ухудшается экономическое положение трудящихся и они начинают протестовать. Агитационная активность на 3-РУ непосредственно связана с критическими выступлениями его работников на конференции трудового коллектива объединения в присутствии председателей областного и городского исполкомов. Их действиями явно руководят не интересы дела, а некие личные.

Просим работников «Беларуськалия» информировать НПГ и газету «Салідарнасць» обо всех фактах нарушения социального, экономического и трудового положения.

***А.КОРОЛЕВ,***
***зам.председателя РО НПГ***

***Не аднойчы ад Аляксея Пятрова, які часта заходзіць у офіс Беларускага Незалежнага прафсаюза, даводзілася чуць, што ў Салігорску створаны і дзейнічаюць шэраг моладзевых грамадскіх арганізацый дэмакратычнага накірунку, але пагутарыць аб іх дэталёва ўсё неяк не выпадала. Адбылася размова ў мінулы чацвер - якраз напярэдадні выхаду гэтага нумара газеты.***

## Яшчэ адна моладзевая арганізацыя

- Так, у Салігорску дзейнічаюць арганізацыі, якія аб'ядноўваюць моладзь, - «Светач», Клуб творчай моладзі «Цэнтр», «Адраджэнне», што дзейнічае пры рэгіянальнай арганізацыі «Беларуськалія». Аднак яны нешматлікія, налічваюць усе разам прыблізна сем дзесяткаў чалавек. Таму ёсць задума стварыць пры БНП больш масавую арганізацыю. Гэта не азначае, што ў не механічна ўвальюцца ўсе пералічаныя. Працаваць жа ў ёй выказалі згоду многія прадстаўнікі іх.

*- Чыя задума?*

- Створана ініцыятыўная група, у якую ўваходжу і я. Намі распрацаваны праект Палажэння аб арганізацыі, праведзена папярэдняе ўзгадненне пазіцый з кіраўніцтвам БНП і рэгіянальнай арганізацыяй вытворчага аб'яднання «Беларуськалій». Нам яны паабяцалі падтрымку ў стварэнні нашай арганізацыі і ў працэсе яе работы.

*- Чым абумоўлена неабходнасць яе стварэння і менавіта пры Незалежным прафсаюзе?*

- Большая арганізацыя - можна ставіць большыя мэты і задачы. А што пры Незалежным прафсаюзе - ёсць некалькі матываў наконт гэтага. Па-першае, не здолеюць прайсці перарэгістрацыю дробныя грамадскія фарміраванні, яны тым самым страцяць свой юрыдычны статус. БНП ж, на мой погляд, гэту перарэгістрацыю пройдзе. Паколькі па сваім Статуце мае права стварваць пры сабе такія фарміраванні, БНП стане для нас своеасаблівым «дахам». Вельмі спатрэбіцца вопыт яго лідэраў, тым больш, на пачатку дзейнасці нашай арганізацыі. Тым маоладзевым згуртаванням, якія існуюць, паасобку вельмі складана атрымаць памяшканні, здабыць нейкія фінансавыя і тэхнічныя сродкі. Будзе падтрымка прафсаюза - непараўнальна ўзрастуць нашы магчымасці рэалізаваць свае ідэі.

*- Якія ж у вас ідэі і мэты? Хаця б у самым агульным плане?*

- Нас хвалююць усе моладзевыя праблемы, якія асабліва абвастрыліся апошнім часам. Беспрацоўе, цяжкасці або нават бесперспектыўнасць набыць жыллё маладым сем'ям, алкагалізм, наркаманія, СНІД, рост злачыннасці і г.д.

*- Беспрацоўе. Што вы можаце зрабіць, каб адолець або аслабіць яго вастрыню?*

- Мы не будзем вынаходзіць веласіпед. Ёсць ідэя. Яна шырока выкарыстоўваецца ў іншых краінах і ў нашай Беларусі. Гэта - стварэнне клуба беспрацоўных. Маецца на ўвазе, што ён будзе шукаць рабочыя месцы або дапамагаць знаходзіць іх, займацца пераабучэннем. Калі ўсё прадумаць дэталёва, распрацаваць талковую праграму, можна дабіцца значных станоўчых зрухаў.

*- Для таго ж пераабучэння спатрэбяцца выкладчыкі, навучальная база, што каштуе не малых грошай. Дзе ўзяць іх?*

- Калі ёсць добрыя ідэі і жаданне ажыццявіць іх, няма невырашальных праблем. Знойдзем і сродкі. Калі гэта на карысць людзей, грамадства, нас падтрымаюць і ўладныя структуры, будзем цесна супрацоўнічаць з імі.

*- А супрацоўніцтва гэта атрымаецца? Ваша арганізацыя не будзе апазіцыйнай уладам, запалітызаванай?*

- Ні ў якім разе. Будзем, апрача сваіх, прыцягваць ідэі іншых людзей, структураў. Прапануюць нейкія дзейсныя ініцыятывы ва ўладных структурах - мы іх падтрымаем і аказам усямерную падтрымку.

*- Жыллёвая праблема. Яе аднымі ідэямі, самымі разумнымі не вырашыш.*

- Зразумела. Мы гатовы прыняць самы непасрэдны ўдзел у будаўніцтве жылля для маладых сем'яў. А калі казаць пра перадоленне негатыўных тэндэнцый у моладзевым асяроддзі, то дапаможа ў гэтым распрацоўка і ажыццяўленне праграм абароны сацыяльных, грамадзянскіх правоў, падняцце сацыяльнага, культурнага ўзроўняў, арганізацыя культурнага адпачынку. Будзем займацца вывучэннем гісторыі роднай краіны, арганізоўваць экскурсіі, вандроўкі. А таксама - дапамагаць весці археалагічныя раскопкі. Дарэчы, папярэдняя дамоўленасць наконт гэтага з адпаведнымі арганізацыямі ёсць ужо.

*- БНП - рэспубліканскае прафсаюзнае фарміраванне. Ваша моладзевая арганізацыя, напэўна, у сувязі з гэтым не будзе замыкаць сваю дзейнасць межамі аднаго Салігорска?*

- Ні ў якім разе, яна будзе распаўсюджваць на ўсю рэспубліку. Па меншай меры, на тыя рэгіёны, дзе ёсць структуры БНП.

*- Ці можаш ты назваць больш-менш канкрэтны тэрмін пачатку дзейнасці сваёй арганізацыі?*

- Яго вызначыць устаноўчы сход. Але канчатковае рашэнне наконт мэтазгоднасці стварэння яе прыме якраз сёння Савет прадстаўнікоў БНП, на пасяджэнне якога я запрошаны. А ў нашым устаноўчым сходзе прымуць удзел прадстаўнікі моладзевых ініцыятыўных груп з рэгіёнаў рэспублікі.

*- Што ж, жадаю вам поспеху ў ажыццяўленні сваіх задумаў.*

**<u>Ад рэдакцыі.</u> На пасяджэнні Савета прадстаўнікоў уважліва абмеркаваны ўсе пытанні стварэння моладзевай арганізацыі, пра якую наш карэспандэнт размаўляў з Аляксеем Пятровым. Дадзена «добра» ягонай задуме. Наперадзе - яе ажыццяўленне.**

*Інтэрв'ю запісаў*
*В.МУРЫЛЁЎ*

***Заседания***

## Между двумя съездами

Состоялось внеочередное заседание Совета представителей - в связи с недавно состоявшимся съездом БКДП и предстоящим в начале июля V съездом БНП.

Председатель БНП В.С. Бабаед дал информацию о работе Исполнительного бюро БНП за период между заседаниями Совета представителей, рассказал о прошедшем съезде Конгресса. Поскольку в Конгрессе произошли некоторые кадровые и структурные изменения, возникла необходимость избрания шести членов Совета Конгресса от Белорусского Независимого профсоюза и члена Координационного Совета.

В Совет Конгресса вошли М.Косач (РО НП Новополоцкого региона), А. Королёв (РО НПГ ПО "Беларуськалий" г. Солигорска), Т.Колода (РО НП г. Солигорска), Г.Гринкевич (НП ПО "Азот" г. Гродно), С.Чернявский (НП ОАО Мозырского НПЗ), Н.Зимин (вице-председатель БНП). Членом Координационного Совета избран Н.Деленжик. Вице-председателем БНП избрана Т.Колода.

Шёл разговор о Тарифном соглашении между концерном "Белнефтехим" и БНП, о ходе его выполнения. Е. Захожая, председатель РО НП БШК "Белшина", отметила, что комиссия по Тарифному соглашению от БНП утверждалась дважды, но в её состав не вошли представители НП БШК. В комиссию включена Елена Павловна.

На Совете рассматривались вопросы подготовки к съезду БНП, изменения и дополнения во внутрипрофсоюзные документы.

Присутствующие ознакомились с положением о республиканской молодёжной организации при БНП. Положение утверждено с учётом внесённых Советом доработок.

## Вучыліся палачане

На базе Наваполацкай рэгіянальнай арганізацыі БНП праходзіў семінар "Агульнапрафсаюзнае абучэнне" I ступені. Арганізатарам семінара была рэгіянальная арганізацыя БНП пры садзейнічанні Беларускага Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў. Удзельнікамі навучання былі 22 прадстаўнікі працоўных калектываў г.г. Полацка і Наваполацка. Семінар праводзілі інструктары прафсаюзнага навучання БКДП Л.Крапіўка (г.Полацк) і А.Ясіновіч (г.Наваполацк).

Асноўнымі мэтамі навучання былі знаёмства са структурай дэмакратычных прафсаюзаў, паглыбленне праваых ведаў, неабходных у дзейнасці прафсаюзаў; разгляд мэтаў, задач і палітыкі прафсаюзаў у наш час; правы і паўнамоцтвы прафсаюзаў; пытанні абароны працы і што такое калектыўная дамова.

У навучанні выкарыстоўваліся нетрадыцыйныя метады — праца ў малых групах, праца ў парах, дыскусіі, розныя гульні, "мазгавы штурм".

У выніку вучобы мы ўсе набылі веды для вырашэння статутнай дзейнасці прафсаюзаў па абароне працоўных, сацыяльна-эканамічных, грамадзянскіх правоў і інтарэсаў, бліжэй пазнаёміліся паміж сабой, абмяняліся вопытам прафсаюзнага жыцця.

***А.ЯСІНОВІЧ,***
***прафінструктар***

***Наши активисты***

## В профсоюз позвала «Салідарнасць»

Того, что на своем веку довелось повидать Виктору Ивановичу Кукареко, иному хватило бы на несколько жизней. Был непосредственным участником многих значительных для истории страны событий. Более того, своим трудом творил ее, эту историю. Есть о чем рассказать людям, есть чем гордиться: не зря прожиты годы. Бывало порой невероятно трудно. Не скажешь, что и ныне легко. Но не ропщет человек. Работает и после выхода на пенсию. Находит время и желание для общественных дел.

***(Рассказ о В.И.Кукареко читайте на 3-й стр.)***

## Исправляем неточность

*В прошлом номере «Салідарнасці» в цитате из резолюции митинга членов Белорусского Независимого профсоюза и граждан г.Солигорска, состоявшегося 27.01.1999 г. (1-я стр.), по вине сотрудников газеты допущена неточность. Пункт 2 резолюции следует читать: «Президенту и правительству принять меры по изменению ставок подоходного налога и довести их до уровня <u>не более</u> 20 процентов до 1 марта 1999 года». Приносим извинения читателям.*

*Рэпартажы, нататкі, інфармацыя, інтэрв'ю*

## 28 сакавіка ў Мінску адбылося шматтысячнае шэсце ў гонар 81-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі

**Здаецца, само надвор"е спрыяла гэтаму шэсцю, гэтаму мітынгу, гэтаму святу. А ўвогуле сонца, нібыта знарок, 28 сакавіка так рассявала цеплыню сваю, так нават прыпякала і на плошчы Я.Коласа, і на праспекце Ф.Скарыны, і на вуліцы Я.Купалы, і на пляцы Парыжскай Камуны, каб паказаць беларускім уладам, што гарачая палітычная вясна, якая пачалася лютаўскімі мітынгамі шахцёраў Салігорска і антыфашыстоўскім – у сталіцы, затым доўжылася адзначэннем Дня Канстытуцыі і цяпер вось – Дня Волі (цяпер 81-й гадавіны БНР), будзе мець свой яшчэ гарачэйшы працяг.**

**Паводле спецыялістаў, 28 сакавіка святочна-пратэстыйная палітычная акцыя пад свае бел-чырвона-белыя штандары (з невялікімі адрозненнямі ў партыйнай сімволіцы) сабрала 10 тысячаў чалавек. Пры гэтым, у калоне карэспандэнт "Салідарнасці" бачыў шмат людзей, якіх ніколі раней не сустракаў на маніфестацыях апазіцыі цягам папярэдніх дзесяці гадоў. Дабавілася, на мой позірк, моладзі і людзей пенсійнага веку. Першыя паспелі ўжо зрабіць арыенцір на ўласную будучыню і будучыню ўсёй краіны ў рэчышчы незалежнасці і дэмакратыі Беларусі. Другія зразумелі, што толькі незалежная дзяржава здолее збудаваць свой дабрабыт і матэрыяльна забяспечыць іхнюю годную старасць ды шчаслівае, насамрэч, светлае заўтра іх дзяцей ды ўнукаў.**

**З падслуханых размоў і спрэчак у святочнай калоне мне запомнілася вось такая.**

# За вяртанне БНР! Супраць вяртання ядзернай зброі!

...Нейкі стары, які нёс у руках бел-чырвона-белы сцяжок, стараўся давесці маладому студэнту:

-Все-таки Зенон Позняк поторопился, призывая людей к белорусской мове. Все-таки, если бы он на первый план поставил социальные проблемы, народ бы за ним повалил валом...

Юнак усміхнуўся і адказаў – годна, не крыўдзячы пенсіянера, якога лёс жыцця аднекуль з Расіі закінуў у Мінск на адзін з заводаў, дзе ён адрабіў каля сарака гадоў, а выйшаў на пенсію з мізэрным утрыманнем у 15 даляраў ЗША штомесяц:

-Разумееш, бацька, Зянон Пазняк ад самага пачатку быў упэўнены: калі мы станем народам, нацыяй (таму і беларуская мова нам тут патрэбна, і культура, і гісторыя сапраўдная), калі мы станем патрыётамі сваёй зямлі, то хутчэй у стакроць вырашым і сацыяльныя праблемы. А без роднай мовы, прабач, мы пастаянна будзем азірацца на Расію ды чакаць ад яе, і так галоднай ды разутай, нейкіх там падачак. Навошта нам тады думаць пра будучыню свайго народу? Хай Расія корміць! Згадзіся, бацька, падачкі разбэшчваюць, перашкаджаюць будаваць эканоміку. Так што – найперш патрыятычны ўздым, які нельга ажыццявіць без павагі (ад цябе, напрыклад, рускага) да беларускай мовы і яе вывучэння моладдзю! А калі дакладна, то ў Зянона Пазняка ёсць выдатная эканамічна-сацыяльная праграма, распрацаваная ягонай перадвыбарчай камандай. Калі б Зянон перамог на выбарах у 1994-м годзе, ты сёння атрымліваў бы тое, што зарабіў за сваю працу...

-А я думал, что мне, русскому, ничего не дал бы...

-А ты ведаеш, колькі тваіх землякоў з Расіі, выдатных людзей змагаецца у Народным фронце? Добрая тысяча набярэцца. І мову нашу ведаюць. І размаўляюць на ёй. Для Зянона ты тут роўны сярод роўных, ты – часцінка беларускага народу, ягонай супольнасці. Мусіць, ты, баця, тады шмат прапаганды супраць Фронту ды іншых дэмпартый наслухаўся?

-Так, сынок, оно и было. Не зря наше поколение совками кто-то назвал безмозглыми, - уздыхнуў дзед, а потым у такт поклічу, які нёсся па-над калонай, стаў крычаць: "Живёт Беларусь!"

Вось такі дыялог, які закранае адразу і сацыяльныя, і міжнацыянальныя стасункі ў дзяржаве, і роздум старэйшага пакалення пра дзень учарашні, і спадзяванне моладзі на дзень заўтрашні, быў характэрны для многіх з тых, хто 28 сакавіка адзначаў Дзень Волі.

У радасным настроі са сцягам Аб"яднанай Грамадзянскай партыі крочыў у агульным натоўпе Мікола Смірноў – лідэр першай у гісторыі дэмакратычных прафсаюзаў краіны вясковай суполкі БНП, якую ён здолеў стварыць у пасёлку Вежы – на цэнтралёвай сядзібе саўгаса "Слуцк".

А радасць яго была ад таго, што індывідуальная забастоўка спадара Смірнова, які ёсць кіроўцам грузавога аўтамабілю, усё-такі аказала станоўчы ўплыў на дырэкцыю гаспадаркі. Кіраўнікі звярнулі ўвагу на праблемы шафёраў. У іх упершыню з"явіліся рабочыя вопратка і абутак. Наведзены парадак у афармленні пуцявых аркушаў. Зараз ідзе рамонт бытавых вадзіцельскіх памяшканняў. Да ўсяго, у кіраўнікоў грузавых аўтамашынаў істотна ўзнялася заробная плата.

- Нам засталося прыняць у суполку яшчэ некалькі чалавек – і мы атрымаем права заключаць з адміністрацыяй калектыўныя штогадовыя пагадненні. Нядаўна да нас прыйшло чацвёра вяскоўцаў – так што расцём, - паведаміў Мікола.

Ну, а якія ж праблемы прывялі спадара Смірнова на дэманстрацыю?

- Баюся, што Аляксандр Лукашэнка, насамрэч, верне на Беларусь ракеты з ядзернымі боегалоўкамі. Два гады таму непадалёку ад нашых мясцінаў узарваўся склад з боепрыпасамі (пра гэта яшчэ газеты шмат пісалі тады). Пачуццё было не з прыемных, хаця ніхто не пацярпеў. Мяркую, што на Случчыне, спрэс начыненай вайсковымі часткамі ды вось такімі складамі, засталіся і стартавыя пляцоўкі для ракетаў. Дык няўжо трэба жыць і чакаць, калі і сюды наляцяць натаўскія самалёты, каб гэтыя пляцоўкі, а заадно і нас усіх сцерці з твару зямлі? У мяне з жонкай, напрыклад, двое дзяцей-школьнікаў, - адказаў М.Смірноў, і па маёй скуры прабег непрыемны халадок.

Я адчуў, наколькі крохкая і нашая незалежнасць, і нават нашае жыццё, якім зараз, пад шумок канфлікту ў Косава, вырашылі па-свойму распарадзіцца беларускія і расійскія кіраўнікі.

Прынамсі, усе тыя пачуцці, з якімі крочыла калона да месца мітынгу на пляц Парыжскай камуны, потым выказалі і аратары. Выступоўцы Юрась Беленькі, Лявон Баршчэўскі, Аляксей Шыдлоўскі, Людміла Гразнова, Анатоль Лябедзька, Іван Нікітчанка, Сяргей Антончык ды іншыя заклікалі народ да шырокага антыядзернага руху, імкнення да ідэалу Беларускай Народнай Рэспублікі, удзелу ў прадстаячых прэзідэнцкіх выбарах. Было зачытанае віншаванне ад Зянона Пазняка ўсім удзельнікам святкавання Дня Волі з 81-мі ўгодкамі БНР.

Людзі ўсміхаліся. Іхнія вочы гарэлі рашучасцю вызваліцца гэтай вясною ад зімовых акоў...

***P.S. І апошняя навіна. Паводле С.Антончыка, 15 красавіка страйкавы камітэт, які адрадзіў сваю дзейнасць, мае намер вывесці на вуліцы рабочых многіх заводаў з іхнымі сацыяльнымі патрабаваннямі да ўладаў.***

## Прафсаюз і выбары

Беларускі Незалежны прафсаюз, як вядома, ужо выказаў свае адносіны да прэзідэнцкай выбарчай кампаніі, якую распачала законна абраная яшчэ да лістападаўскага 1996 года рэферэндуму ЦВК на чале з дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання Віктарам Ганчаром.

БНП зыходзіць з таго адліку, што на Беларусі дзейнічае Канстытуцыя 1994 года з незаконна ўнесенымі туды папраўкамі. Але нават тыя дзяржаўныя кіраўнікі, якія гэтыя папраўкі ўнеслі, не маюць права Асноўны Закон называць Канстытуцыяй 1996 года. Тым не меней, у абодвух варыянтах – і ранейшым, і пазнейшым тэрмін дзейнасці прэзідэнта абмяжоўваецца пяццю гадамі. Аляксандр Лукашэнка стаў прэзідэнтам у 1994 годзе. Значыцца, і па Канстытуцыі без папраўак, і па Канстытуцыі з папраўкамі сёлета павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары. Усё астатняе – моўная эквілібрыстыка, палітычная дэмагогія, скіраваная на бестэрміновае панаванне аўтарытарнай улады, якая сёння не ў стане вырашаць сацыяльныя праблемы. Якая нахабна залазіць у кішэні працоўных заводаў і фабрык, душыць прадпрымальніцтва і дробны бізнес, абкладваючы ўсіх і ўсё неверагоднымі падаткамі дзеля стварэння прэзідэнцкага "пазабюджэтнага бюджэту", што непадсправаздачны нават кішэннай Палаце прадстаўнікоў.

БНП не забараняе сваім сябрам браць удзел у гэтай выбарчай кампаніі або не браць такога ўдзелу: тут справа гранічна асабістая кожнага грамадзяніна, не зважаючы на яго прыналежнасць да таго ці іншага прафсаюза або партыі.

## Іх затрымалі ў Нясвіжы

18 сакавіка ў 22.00 ужо ў Нясвіжскім РАУС у затрыманых тут зборшчыкаў галасоў на карысць Зянона Пазняка – старшыні філіі БНФ Алеся Язвінскага і маладафронтаўца Міхася Асмыковіча былі сканфіскаваныя падпісныя аркушы з дваццаццю подпісамі грамадзянаў, бланкі заяваў на ўступленне ў грамадзянства БНР і разнастайныя звароты лідэра Народнага фронту да беларускага народа.

Цікава, што на хлопцаў міліцыянты склалі пратаколы... аб распаўсюджванні імі літаратуры без выхадных дадзеных, якая наносіць шкоду краіне. Прыкладна каля апоўначы затрыманыя былі адпушчаныя дамоў. Зараз з актывістамі разбіраецца адміністрацыйная камісія Нясвіжскага райвыканкама.

## Перетрус у Мар"інай Горцы

18 сакавіка ў 18.50 супрацоўнік Пухавіцкага РАУС Леанід Нячувіцер зрабіў налёт на прыватную кватэру ў доме №61 па вуліцы Кастрычніцкай у Мар"інай Горцы, дзе звычайна тусуецца апазіцыйная мясцовая моладзь.

Міліцыянт сканфіскаваў падпісаныя аркушы Зянона Пазняка, бланкі на ўступленне ў грамадзянства БНР, 110 пасобнікаў свежага другога нумару тутэйшай дэмакратычнай газеты "Адвечны шлях", якую выпускае яе заснавальнік і рэдактар Алесь Васьковіч, старшыня Пухавіцкай рады БНФ. А яшчэ – два бел-чырвона-белыя сцягі. Да прысутных спадар Нячувіцер прэтэнзіяў не высоўваў. Але не выключана, што за тусоўкі дэмакратычнай моладзі ў сваёй кватэры могуць тым ці іншым чынам пацярпець гаспадары жытла.

## Маладзечна. 19 сакавіка

# Святочны настрой сапсавалі міліцыянты

Тут, у раёне Маладзечна пад назвай Старое Месца, адбылася першая на Міншчыне і ў Беларусі палітычная акцыя, прысвечаная 81-й гадавіне Беларускай Народнай Рэспублікі, першага дзяржаўнага ўтварэння ў нашай краіне на пачатку XX стагоддзя.

З інтэрв"ю, дадзенага карэспандэнту "Салідарнасці" адным з арганізатараў пікету ў гонар БНР Алесем Капуцкім, што тут ачольвае мясцовы Цэнтр грамадзянскіх ініцыятыў і раду Народнага фронту, вынікае наступнае.

Лідэры прадстаўніцтваў БНФ, дэмакратычнага аб"яднання "Ветэран" і "Маладога фронту" ў сваёй заяўцы прасілі гарвыканкам дазволіць ім, па-першае, правесці серыю пікетаванняў – па адным штодня, пачынаючы з 19-га і да 25-га сакавіка, па-другое, правесці на цэнтральных вуліцах - Сяргея Прытыцкага, Вялікім Гасцінцы, у грамадскіх месцах мікрараёнаў, каля буйных заводаў.

Але ўлады напярэдадні сённяшняга пікету растлумачылі заяўшчыкам: маўляў, серыю пікетаванняў нельга было прасіць адной паперай – на кожную акцыю патрэбная свая адмысловая заяўка.

Паколькі арганізатары так не зрабілі, то гарвыканкам санкцыянуе толькі першы па ліку пікет. І то – не ў цэнтры горада, а ў малалюдным Старым Месцы з 15.30 да 18.30. Акцыя, аднак, праходзіла ажыўлена. Бо група пікетчыкаў разгарнулася каля агароджы праваслаўнай царквы і канцовага аўтобуснага прыпынку, дзе жыхарства мусіць рабіць перасадкі з маршрута на маршрут. Таму людзі, заўважыўшы бел-чырвона-белыя сцягі, падыходзілі да апазіцыянераў, распытвалі пра гісторыю ўзнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі, цікавіліся ходам перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі. Некаторыя тут жа запісваліся ў грамадзянства БНР.

Гэту сітуацыю, дарэчы, скарыстоўвалі і сябры ініцыятыўных групаў Зянона Пазняка і Міхаіла Чыгіра. Яны непадалёку ад пікету збіралі на карысць вылучэнцаў подпісы грамадзянаў, раздавалі адпаведныя ўлёткі.

Шмат хто цікавіўся, напрыклад, эканамічнай платформай Міхаіла Чыгіра, а таксама тым, як думае вырашаць сацыяльныя праблемы Зянон Пазняк.

Мусіць, такія дыялогі дэмакратаў з насельнікамі Старога Месца не спадабаліся старшаму лейтэнанту міліцыі Цімашэнку. У 17.10 ён абвясціў, што датэрмінова распускае пікет, а вось Алеся Капуцкага ды Івана Гайковіча затрымлівае за агітацыю на карысць незаконных кандыдатаў у прэзідэнты. Праўда, знайсці падпісныя аркушы спадару Цімашэнку не пашанцавала. У пастарунку затрыманых абвінавацілі ў распаўсюджванні літаратуры без выхадных дадзеных, шкоднай для дзяржавы. Спадарам Капуцкаму і Гайковічу цяпер пагражае разборка на адміністрацыйнай камісіі Маладзечанскага гарвыканкама і магчымы максімальны штраф – па пяць "мінімалак" кожнаму.

***P.S.*** *Як стала вядома, маладзечанскія гарадскія ўлады не дазволілі мясцовым дэмакратам правесці 25 сакавіка мітынг, прысвечаны Дню Волі. Прычына: хадайніцтва начальніка тамтэйшага ГРАУС Яўгена Скварцова, які пераканаў гарвыканкам у тым, што мітынгоўшчыкі на гэтай акцыі будуць займацца незаконнай агітацыяй за ўдзел грамадзянаў у незаконных прэзідэнцкіх выбарах. Тым не менш, 25 сакавіка дэмакраты на цэнтралёвым пляцу ўсклалі кветкі да Памятнага каменю пакутнікам за Беларусь.*

*Старонку падрыхтаваў Алесь МІКАЛАЙЧАНКА*

# В профсоюз позвала «Салідарнасць»

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Родился Виктор Иванович в жутком 37-ом в военном городке вблизи Постав, где офицером служил его отец Иван Филиппович. Был средним в семье - два брата старших и две младшие сестренки. Как пережили войну - не помнит. Знает только, по рассказам матери, что отец с первых дней ушел на фронт, да и сгинул где-то без вести. Что все годы в оккупации провели под постоянной угрозой смерти: вдруг кто-то донесет гитлеровцам об офицерской семье. К счастью, не донесли. Выжили. А вот двухлетняя сестренка Валя умерла от тифа. Сразу после освобождения Беларуси Мария Николаевна с четырьмя малолетками переселилась в деревню под Минском, где кормилась семья погибшего офицера, в основном, с 60 соток земли картофелем, капустой да огурцами, выращенными собственноручно. В том числе и детскими ручонками. Мужчины в доме не было - Мария Николаевна до конца жизни ждала да так и не дождалась своего без вести пропавшего Ивана. Рано довелось взяться за плуг да косу и Виктору.

Собрался было он поступать в суворовское училище, но пока документы блуждали по разным инстанциям, стал переростком. Поехал в Кронштадт по вызову брата Леонида, который там учился в высшем военно-морском училище. Поступил в двухгодичную школу юнг, получил специальность электромеханика. С нею и прослужил на Северном флоте пять лет, с начала строительства корабля - базы для обеспечения подводных атомных лодок - тогда их строительство как раз разворачивалось. Исколесил весь Северный Ледовитый океан, по три-четыре месяца не видя берега. Побывал у берегов Канады, дважды на Кубе, как раз во время Карибского кризиса, когда мир стоял на грани атомной войны. После демобилизации (служить сверхсрочно в армии отказался) целый год разделывал (шкерил) рыбу в траловом флоте, обосновавшись в Мурманске. Затем перешел в торговый флот по специальности. В Мурманске же и женился (Евгения Ивановна - коренная северянка, инженер-строитель). Родился первенец - Игорь. Мальчик болезненный, из-за него вскоре пришлось менять климат.

По приглашению уже второго брата Олега Ивановича, работавшего начальником горного участка, приехали в Солигорск. Стал шахтером-электриком и Виктор Иванович. Награжден Почетной грамотой Верховного Совета БССР за пуск первой и второй очереди Первого калийного комбината, которому отдал полтора десятилетия добросовестного труда. За это время окончил горнохимический техникум. Только началось строительство Четвертого - в 1976 году перевелся туда. Сразу машинистом на участок подъема, затем мастером, механиком.

На всю жизнь запомнился день, когда поднимали на-гора первые тонны руды. Как все волновались, радовались. Было множество корреспондентов: начало работы такого гиганта индустрии - не рядовое событие даже в масштабах республики. Не забыли о нем горняки и обогатители четвертого калийного поныне - сделанное в день пуска фото В.И.Кукареко из газеты «Знамя юности» находится на почетном месте в фойе административного здания РУ-4.

Пять лет проработал Виктор Иванович на участке подъёма. Снова сменил место работы, перейдя монтажником в шахтостроительное управление, занимался ремонтом оборудования на всех обогатительных фабриках «Беларуськалия». Однажды был командирован в Западную Украину для ликвидации результатов затопления шахты. Восстанавливали ее в невероятно сложных условиях. Домой Виктор Иванович вернулся через полгода, когда на всех семи горизонтах вручную были смонтированы конвейеры.

Некоторое время довелось Виктору Ивановичу потрудиться мастером в ремонтно-строительном управлении. В 1994 году по состоянию здоровья его перевели электриком в санаторий «Березка», где работает и сейчас.

В Независимый профсоюз В.И.Кукареко вступил не сразу после его создания.

- Поначалу я о нем почти ничего не знал, - рассказывает Виктор Иванович. - Но к нам на работу регулярно приносили газеты «Салідарнасць» и «Рабочему». Они и убедили меня, что Независимый профсоюз принципиально и последовательно отстаивает интересы людей труда. Стал и я «независимым», избран заместителем председателя первичной организации ЖКХ ПО «Беларуськалий» по профилакторию «Березка». Делаем свое дело профсоюзное спокойно, без конфронтации с администрацией и профсоюзом химиков. Взаимопонимание в последнее время находим практически по всем проблемам. Хотя были прежде и трения.

...Надежно пустили корни в полесскую землю семьи с фамилией Кукареко. На заслуженном отдыхе Олег Иванович, который три с половиной десятилетия назад пригласил брата в только рождающийся шахтерский город. Он так и проработал начальником шестого горного участка до пенсии - уважаемый в городе человек.

Игорь, сын Виктора Ивановича, живет в Могилеве, работает хирургом-реаниматологом. А вот родившаяся в Солигорске дочь Ирина осталась в родном для нее городе, работает в кафе. Есть у В.И.Кукареко, как и положено по его возрасту, внук и внучка. Жизнь продолжается.

**В.МУРЫЛЁВ**

# "Чаму паэты робяцца палітыкамі?"

***На гэтае і іншыя пытанні карэспандэнта "Салідарнасці" адказвае малады паэт з Клецкага раёна Алег НІКУЛІН***

**- Шаноўны Алег, вось ужо некалькі гадоў як я сустракаю вашыя вершы і ў "тоўстых" мінскіх часопісах, і ў газетнай перыёдыцы. Гэта патрыятычная лірыка, глыбокі філасофскі роздум аб лёсе беларускага народа, аб будучыні нашай моладзі. Мусіць, настаў час задумацца і пра выданне асобнай уласнай кніжкі паэзіі?**

-Так, у гэтым ёсць вострая патрэба. Але кнігу пакуль не магу выпусціць. Прычына – грашовая праблема.

**-Чаму ж так? Вы такі малады, поўны сіл і энергіі чалавек – няўжо не можаце неяк зарабіць на зборнік вершаў?**

-Насамрэч, мне 26 гадоў. Я сам – нараджэнец вёскі Гурнаўшчына Клецкага раёна. Але рос без бацькі, які памёр ад знясільваючай працы. Зразумела, шмат чаго ўмею рабіць на зямлі і каля зямлі. Аднак і іншымі здольнасцямі Бог мяне не пакрыўдзіў. У раннім юнацтве скончыў Мірскую мастацкую вучэльню. Вярнуўся ў родныя мясціны, уладкаваўся ў адну са школаў настаўнікам малявання. Адначасова меў палову стаўкі вартаўніка. Але нечакана змяніўся дырэктар школы. Яму не спадабалася ўва мне літаральна ўсё: і тое, пра што пішу ў вершах, і тое, як выкладаю маляванне дзецям. Характарам аўтарытарным, нетрываннем іншай думкі шмат у чым нагадвае прэзідэнта РБ. Вось і давялося развітацца. Цяперака я ёсць беспрацоўным.

**-Відаць, адсюль Вашыя палітычныя погляды?**

-Не толькі праз гэты выпадак я прыйшоў да Беларускага Народнага фронту. Мяне здавён злавала кансерватыўнасць калгаснікаў, асабліва тых, хто адпрацаваў за бясплатна свой век на фермах і ў полі, у сваёй рабскай псіхалогіі. Маўляў, начальнікі ўсе добрыя, а прэзідэнт-бацька родны, якому ўсе перашкаджаюць. Таму людзей з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй яны не прымаюць. Нават мяне за мае выказванні хацелі выселіць з вёскі. Народ трэба ратаваць ад палітычнай зашоранасці. Трэба адчыняць вочы на беларушчыну, на рынкавую эканоміку, на тое, што ёсць сацыяльна годным ладам жыцця асобы. А зрабіць гэта могуць толькі дэмакратычныя партыі, вольныя прафсаюзы. Вось чаму, лічу, Незалежны прафсаюз надзвычай правільна зрабіў, арганізаваўшы ў пасёлку Вежы Слуцкага раёна сваю суполку. Ну, а мой крок у гэтым кірунку – канкрэтная дапамога Беларускаму Народнаму фронту.

**-Чым жа Вы, Алег, памагаеце БНФ?**

-Звычайна, зборам подпісаў грамадзянаў. Раней збіраў галасы за адстаўку Аляксандра Лукашэнкі. Цяпер вось – збіраю подпісы за вылучэнне Зянона Пазняка кандыдатам у прэзідэнты. Ну і, зразумела, гэтымі днямі падаў заяву на ўступленне ў Народны фронт.

**-Як ішоў збор подпісаў на карысць Зянона Станіслававіча ў Вашай мясцовасці?**

-Цяжкавата. Сказалася хлуслівая прапаганда афіцыйных СМІ, якая з Пазняка пастаралася зрабіць стэрэатып нацыяналіста-экстрэміста, што, баючыся адказнасці за свае нібыта злачынствы, збёг за мяжу. Падчас сустрэч з людзьмі я стараюся разбіць гэтае агітацыйнае клішэ. І калі мне такое ўдавалася, то грамадзяне падпісваліся за нашага лідэра. Між іншым, няпроста ішлі справы і ў сяброў ініцыятыўных групаў Міхаіла Чыгіра, якога таксама паспелі аблыгаць "прыватныя рамяні" партыі ўлады. Але Міхаіл Мікалаевіч – нараджэнец суседняга Капыльскага раёну – ужо некалькі разоў прыязджаў на сваю радзіму, сустракаўся з грамадзянамі. Яму працей змагацца з ілжою...

**-А Вы самі не адчуваеце пераследу з боку ўладаў? Не затрымліваліся міліцыянтамі, напрыклад?**

-Не затрымліваўся яшчэ. Але пагрозы ад мясцовых вертыкальных чыноўнікаў у мой адрас ўжо былі.

**-Чым жа яны Вам пагражаюць?**

-Б'юць па самым балючым месцы. Забаранілі, паводле "тэлефоннага права", друкаваць мае вершы ў клецкай раённай газеце "Да новых перамог". Цяпер вось могуць не даць 15 мільёнаў рублёў, абяцаных уладамі раней, на выданне маёй кніжкі "Прадмова да смерці", якую я мушу выпусціць у бібліятэчцы часопіса "Маладосць". Па існуючай практыцы, якая ўсталявалася з нядаўняга часу, 75 адсоткаў на выданне выдзяляецца дзяржавай, а 25 – шукаць самому ў нейкіх фундатараў-спонсараў. Дык вось, яшчэ раней, колькі год таму, гэткім спонсарам пагадзіўся стацца райвыканкам. Але зразумела, што "заядламу бээнэфаўцу" чыноўніцкай помачы не бачыць як сваіх вушэй... Зразумела і другое: коштам палітычнай здрады я ніколі не стану набываць нават такую пажаданую для сябе рэч, якой ёсць першая кніга паэта.

**-Ці спадзяецеся Вы як нацыянальны дэмакрат на перамогу дэмакратыі ў Беларусі?**

-Спадзяюся. Нават упэўнены ў гэтым. Наперадзе ў мяне – цэлае жыццё. Будучыню і сваю, і свайго народа трэба закладваць сёння. Вельмі хачу, каб нашу дзяржаву ачоліў Зянон Станіслававіч. Каб мы ўсе адрадзіліся – нацыянальна, сацыяльна, духоўна і нават фізічна.

**-Прачытайце для чытачоў любімае вамі чатырохрадкоўе, прысвечанае Беларусі, з апошніх вершаў, якія вы напісалі.**

-Калі ласка.

***...І нават па-за межамі планеты***
***Жыве яна і будзе жыць далей,***
***Хоць топчуць яе волю прайдзісветы,***
***Хоць душыць яе праўду ліхадзей.***

**- Вялікі дзякуй. Цяпер я разумею, чаму такі верш не друкуе клецкая раёнка...**

***А.СЕРГІЕВІЧ***

## Аб гэтым пішуць

# Наперадзе ўсіх. Па беднасці

"Народ бяднее і бяднее. Калі карыстацца крытэрыямі 1990 года, то ў студзені 1999-га да беднякоў можна аднесці 85 працэнтаў грамадзян Беларусі. Валавы ўнутраны прадукт на аднаго чалавека ў нас у 25 разоў меншы, чым у Даніі, у 20 разоў меншы, чым у Германіі, у 3,5 раза меншы, чым у Чэхіі, у 2,9 меншы,чым у Польшчы, у 2-2,5 меншы, чым у Турцыі, Літве, Латвіі і Эстоніі.

А цынічны дыктатар не стамляецца паўтараць, што ашчаслівіў народ, карыстаецца яго даверам і выконвае яго волю. Каб плаціць заработную плату і пенсіі без такіх затрымак, як у Расіі, ён выпусціў у 1998 годзе толькі па афіцыйных звестках 19,3 трыльёна рублёў, а на самай справе — каля 100 трыльёнаў (па 10 мільёнаў на кожнага жыхара Беларусі), канчаткова абясцэніўшы нацыянальную валюту. Хто можа падтрымліваць такога кіраўніка, які ўжо аблысеў, а так і не адрознівае шлях да галечы ад шляху да дабрабыту? Хто можа падтрымліваць у такой сітуацыі прапанову змяніць статус дзяржаўнай незалежнасці на статус расійскай правінцыі, калі сёння Расія, якая валодае 38% сусветных мінеральных рэсурсаў, збірае за год падаткаў менш, чым ЗША за тыдзень?

У якой галаве можа ўзнікнуць думка, што з гэтых нікчэмных падаткаў, якіх не хапае на тое, каб не замярзаць голадам сірат у дзіцячых прытулках Расіі, можа нешта пайсці на карысць беларускіх грамадзян? Ці не час зразумець, што Беларусь патрэбна расійскім правіцелям, каб яе абіраць, як гэта рабілася сотні гадоў, а не каб ёй дапамагаць!"

*(Урывак з артыкула Станіслава Шушкевіча "Як зруйнаваць дыктатуру ўладалюбівага невуцтва". "Народная воля", нумар за 25 сакавіка 1999г.)*

# В чем-то похож на...

"Вообще, наш президент очень хочет быть похож на генеральных секретарей. Разговорчив, как М.Горбачев. Строг, как Ю.Андропов. Лыс, как Н.Хрущев. И усат, как И.Сталин. Только все это у него получается как-то карикатурно. Удивительным образом он сумел аккумулировать только отрицательные черты этих великих людей. Горбачевскую гласность превратил в гласность для себя, заполнив собой не только белорусские СМИ, но в значительной степени и российские. Андроповскую борьбу с коррупцией превратил в пародию, учредив для себя бесконтрольный президентский фонд и став первым коррупционером в стране. Западу грозит, как Н.Хрущев, только не имея ни ядерного оружия, ни ракет, ни даже возможности постучать ботинком по трибуне ООН. О Сталине и говорить нечего. Тот сначала исполнял угрозу, а потом говорил о ней. Наш же только грозит всем".

*(Отрывок из статьи Юрия Ходыко "Милицейская акция против Центризбиркома по выборам президента Республики Беларусь приобрела трагикомический характер").*

*БелаПАН.*

# Приходи!

223710, г.Солигорск, ул. Ленина, 42, тел. (01710) 2-06-22, тел./факс 3-72-01

Не жди! Иди с нами! **Вступай в БНП! В единстве наша сила!**

*Многие тревожащие тебя проблемы могли бы успешно разрешиться, если бы ты был в нашем профсоюзе!*

**Технологии правового беспредела**

# Вентиляционная война

## Глава первая, в которой автор знакомит читателей с историей термина "экология жилища"

Притчей во языцех уже давно стала не выдерживающая критики звукоизоляция наших квартир. Особенно тех, которые расположены в жилых сборных зданиях серий КПД 70-80-х годов.

На эту тему только на моей памяти было опубликовано немало научных статей о том, как следует решать проблему, немало острых корреспонденций и фельетонов относительно того, что в конкретных ситуациях несет жильцам нерешенность данной проблемы архитектурно-строительно-проектными умами. Заступался за нашего брата-новосела от наваждения "бытовых" звуков в подобных домах даже Сергей Михалков с помощью своего киножурнала "Фитиль". Как известно, до сих пор остается шлягером спецпесенка "Эй вы там, наверху!" в исполнении неувядаемой Аллы Борисовны.

К сожалению, в те советские времена борьба публицистов, сатириков, кинематографистов и певцов за экологию нашего жилья ограничилась боями именно с плохой звукоизоляцией.

Хотя всегда и все знали в этом плане о еще одной проблеме – такой же неважной запахоизоляции. И если раньше мы еще как-то мирились с проникающими в квартиру от соседей острыми ароматами домашней кулинарной готовки (знали, сколь быстротечны подобные ароматы), то сейчас, в эпоху "дикорастущего" рынка с его евроремонтами жилья, организацией в квартирах целых производств, да еще – с незаконными перепланировками и перестройками внутри квартир, мы с наваждением или агрессией запахов, атакующих наши залы и спальни, уже воюем всерьёз. Без эстрадно-музыкального сопровождения.

Не до песен, не до "Фитиля", когда твое жилище превращается в газовую камеру, когда оно являет собой откровенную угрозу твоей семье и тебе самому.

Представьте себе только такую картину. Вы жили более-менее спокойно в своем доме почти два десятка лет. И вдруг этажом выше сосед, имеющий больше вашего денежек и полёт фантазии, на своей кухне "врезает" так называемое самовольное строение – нишу. А в ней он для лучшей организации порядка на кухне размещает или холодильник, или стиральную машину, или даже ... газовую (электро) плиту.

Через несколько часов вы начинаете замечать, как все богатство запахов, а оно к вам проникает не только через вентиляцию, но и через щели между панелями КПД, начинает заполнять ваши комнаты. И вот вам уже от смрада-угара деваться негде. Вы бежите наверх к соседу, с которым еще недавно вместе отмечали день рождения его внука, все видите собственными глазами и просите его во имя всех святых уничтожить сей "запор". Но не тут-то было! Сосед в нишу вложил работу, деньги, стройматериалы, а потому разрушать ничего не будет. И теперь – между вами смертельный конфликт. И теперь вы – смертельные враги. И теперь вас рассудит только Закон. Так как вам и вашим домочадцам хочется жить в экологически здоровой среде, а не поглощать лёгкими угарные газы. Которые, заметим, жизнь не продлевают.

В Минске, согласно официальной статистике, сегодня насчитывается более трех тысяч этаких ниш.

Кстати, названная статистика озвучивалась в конце прошлого года одним высокопоставленным чиновником Минжилкомхоза на Белорусском радио. Тогда, между прочим, была, так сказать, озвучена и позиция государства по данной проблеме.

Признаюсь честно черед читателями "Салідарнасці", что если бы мне не болело, если бы мою семью не коснулась эта беда, я вряд ли познакомился бы с термином "экология жилища".

Но о моей истории – попозже. Так как в следующей главе хочу предложить читателям ознакомиться именно с официальной позицией нашей исполнительной власти относительно самовольных перекрытий в многоэтажных домах вентиляционных каналов.

*Алесь СЕРГИЕВИЧ,*
*г.Минск*

**Куток паэзіі**

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА**

## Веснія рытмы

### Адліга

Зелянее ў студзені трава,
І пупышкі набрыняюць сокам...
І звініць дрыготка і высока
На вятры душа, нібы струна.
У варон згрубелі галасы.
Падільдом рака вось-вось заходзіць.
Дык чаму ўсё роўна сэрца просіць
Цеплыні, пяшчоты і вясны?
Што ж яму, нарэшце, не стае
На апошнім стрэсавым узмежку,
Каб пaверыць у тваю усмешку,
Ўабяцанні звабныя твае?
Прытуліся да шчакі шчакой,
Усхадзіся полымем гарачым!
Хай душа настылая заплача,
Як лядзяшка ранняю вясной...

***

Я вясной нарадзіўся.
Зноў жаўрук з-пад нябёсаў вітае
Адпаўленне жыцця
І віншуе маю маладосць...
Узыходзь жа, мой дзень!
Узыходзь, як трава маладая!
Быццам сонца над пашай,
Што чакае насення, ўзыходзь!

Разапрэла зямля.
Не надыхацца свежасцю весняй –
Прасякае яна
У юначую палкую кроў...
Упаду на ручай
І ягонаю звонкаю песняй
Захлынуся!
Памру! Уваскрэсну з памерлых ізноў!

І здзіўлюся нанова
Свету гэтаму маладому,
Бы ніколі раней
Я такой вось не бачыў красы...
Прывітанне, мой дзень
Жаўрукоў, ручукоў, крыгаломаў,
Назаві мяне сынам
Трапяткой, жыццядайнай вясны!

**Бізнес**

# Статутныя фонды заб`юць прадпрымальнікаў

***Да 1 снежня 2001 года ўсе беларускія прадпрыемствы павінны прывесці свае ўстаноўчыя дакументы ў адпаведнасць з новымі патрабаваннямі, даведзенымі Указам прэзідэнта РБ ад 16 сакавіка №11 «Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спыненні дзейнасці) суб`ектаў гаспадарання».***

***Інакш кажучы, суб`ектам гаспадарання належыць прайсці яшчэ адну перарэгістрацыю, паколькі Указ устанавіў новае Палажэнне аб іх дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі. Новы нарматыўны дакумент тычыцца юрыдычных асобаў - камерцыйных і некамерцыйных арганізацыяў, а таксама прадпрымальнікаў-індывідуалаў.***

Чытач, магчыма, помніць, што ў верасні мінулага года Аляксандр Лукашэнка даслаў у кіруючыя інстанцыі тэлеграму, згодна з якой рэгістрацыя суб`ектаў гаспадарання ў Беларусі была прыпыненая. Як тады сцвярджалі, каб «акараціць» камерсантаў-пасрэднікаў, якія нібыта п`юць кроў прадпрыемстваў вытворчага сектара і спажыўцоў, а заадно зрабіць немагчымым з`яўленне «фірмаў-аднадзёнак», якія ўзнікаюць, каб атрымаць крэдыты ды іншыя прэферэнцыі, і знікаюць, каб атрыманыя грошы хуценька прыхаваць.

З гэтай нагоды паміж прадстаўнікамі дзелавых колаў і дзяржорганамі, перш за ўсё фіскальнымі, успыхнула палеміка. Апошнія, перш за ўсё ў асобе Дзяржаўнага падатковага камітэта, актыўна настойвалі на адмене прынцыпу абмежаванай адказнасці, а таксама патрабавалі значна павялічыць памеры статутнага фонду.

Зразумела, грошы для дзяржавы - гэта што вада для падарожніка ў пустыні. Таму мінімальны памер статутнага фонду на самой справе рэзка павялічаны. Цяпер, каб адкрыць акцыянернае таварыства, трэба будзе заплаціць казне 10000 мінімальных заработных платаў (5 мільярдаў рублёў па стане на сёння), закрытых акцыянерных таварыстваў і таварыстваў з абмежаванай адказнасцю - 3000 МЗП, унітарных (што належаць адной асобе) прадпрыемстваў - 750 МЗП, таварыстваў з дадатковай адказнасцю, гаспадарчых таварыстваў, вытворчых кааператываў, казённых прадпрыемстваў, фермерскіх гаспадарак - 50 МЗП.

Такі вялікі памер статутных фондаў практычна пазбаўляе малое прадпрымальніцтва магчымасці карыстацца прывілеямі арганізацыйна-прававых формаў, якія прадугледжваюць абмежаваную адказнасць іх заснавальнікаў. Таму што рэальна заснаванне таварыства з абмежаванай адказнасцю (ТАА) ў Беларусі будзе каштаваць значна больш, чым у Літве ці ў Расіі.

У той жа час субсідыярная (дадатковая) адказнасць заснавальнікаў па абавязацельствах створаных імі юрыдычных асобаў, на ўвядзенні якой настойвалі падаткавікі, устаноўлена толькі на выпадак, калі яна прадугледжаная статутнымі дакументамі, ці калі банкруцтва камерцыйнай арганізацыі будзе наступствам дзеянняў яе ўдзельнікаў.

Таксама значна (з 8 да 20 МЗП) павялічаны памер платы за рэгістрацыю, прычым за рэгістрацыю другой і наступных арганізацыяў давядзецца кожны раз плаціць на 20% болей.

Аўтары ўказа не забыліся і аб адказнасці тых чыноўнікаў, якія займаюцца рэгістрацыяй. У выпадку, калі зарэгістраванае імі прадпрыемства нанясе нейкую шкоду дзяржаўным, грамадскім ці асабістым інтарэсам, яны могуць быць пакараныя штрафам у памеры да 10 МЗП. Так што пільнасць з гэтага боку павінна павялічыцца, а з улікам значнага пашырэння паўнамоцтваў рэгіструючых органаў рэгістрацыя прадпрыемства і зусім робіцца справай суб`ектыўнай.

Указ прэзідэнта прадугледжвае і іншыя патрабаванні (напрыклад, у статуце заснавальнікі павінны ўказваць толькі тыя віды дзейнасці, якія будуць ажыццяўляць, а калі хоць адзін з іх не будзе ажыццяўляцца на працягу паўгода, прадпрыемства можа быць ліквідаванае ў несудовым парадку).

Спіс патрабаванняў да рэгіструемай фірмы, прычынаў для адмовы ў рэгістрацыі і для ліквідацыі можна доўжыць. Але безумоўна адно - гэты дакумент сведчыць аб тым, што жаданне дзяржавы паставіць пад кантроль усіх і кожнага набывае моц. Пры гэтым галоўнае - стварэнне прадпрымальніцтву добрых умоваў для развіцця - сыходзіць на задні план. Як кажуць, так клапаціліся, што разам з бруднай вадой выплюхнулі з начовак і немаўлятка.

*Канстанцін СКУРАТОВІЧ*
*(«Навіны», №35 за 31.03.99 г.)*

**Салідарнасць**
Рэгістрацыйны №687
Газета заснавана ў 1991 г.
**Іванам Юргевічам**

**Заснавальнікі** — калектыў рэдакцыі і Беларускі Незалежны прафсаюз гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў і іншых работнікаў

**Рэдакцыйная калегія:**
Бабаед В.С., Юргевіч І.В., Галубіна Н.Я., Дубіцкі А.А., Ушчапоўская С.А., Мікалайчанка А.С.

**Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць прыводзімых фактаў, цытат і іншай інфармацыі. Рэдкалегія можа друкаваць матэрыялы, не абавязкова падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рэдактар **Віталь Мурылёў**
**Адрас рэдакцыі:** 223710,г.Салігорск,вул.Леніна, 42, БНП.
Тэл.: (01710) 2-06-22, тэл./факс: (01710) 3-72-01
Падпісана ў друк 02.04.1999 года ў 9.00
Газета адрукавана ў друкарні г.Слуцка,
223610 г.Слуцк, вул. Багдановіча, 7
Тыраж **8500**.
Заказ 1360